

# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 5 (34). Слонім. 30 студзеня – 5 лютага 1998г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны

СКАНДАЛ

## На аппетитный окорок всегда много желающих

***Почти треть акций Слонимского мясокомбината принадлежит зарубежным гражданам***



*Алег БЕРДУЛО думает*

Комитет государственного контроля завершил проверку акционерного общества "Слонимский мясокомбинат". В результате был установлен ряд нарушений законодательства при проведении акционирования данного предприятия, а также факты несоблюдения требований устава общества.

Так, без разрешения акционеров и согласия учредителей директор мясокомбината Олег Бердуло заключил договор на приобретение акций с минским ЗАО "Инвестиционный проект-21", ООО "Импульс", АО "Атлант-Инвест", предприятием "Агроинвест-Фонд". Также руководитель предприятия без согласования с комитетом "Гродноблимущество" заключил договор о реестровом обслуживании с ЗАО "Агрокапитал".

Выяснилось, что открытым акционерным обществом "Слонимский мясокомбинат" приобретено 5236 акций на общую сумму 549,8 млн. руб.: это составляет всего 1,1% от уставного фонда. Государству принадлежит всего 11,9% акций общества. В то же время почти 47% акций приобрели физические лица (1035 чел.), из них 8 акционеров — нерезиденты Республики Беларусь, которые владеют пакетом акций в размере 29,8%. Непосредственно работникам мясокомбината принадлежит только 5,8% акций.

По материалам проверки направлено письмо председателю Гродненского облисполкома для принятия мер по устранению выявленных нарушений законодательства при акционировании Слонимского мясокомбината. Внесены предложения по резервированию за государством оставшихся невыкупленных акций предприятия.

**Наталья ФУРСОВА**

ПРОШУ СЛОВА

## Живем ниже минимума

Дорогая редакция!

То, о чем я недавно прочитала в "АиФ в Беларуси" (№3 за январь 1998г.), не укладывается в моей голове. Вот читатель Стрижевский задает АиФ вопрос: входит ли в набор важнейших продуктов питания, из которого рассчитывается прожиточный минимум, бутылка водки? Мадам Зубович ему отвечает, что набор важнейших продуктов питания состоит из 25 наименований (водка не входит) и рассчитывается как годовая норма питания на одного человека. По данным Министерства статистики и анализа РБ в ноябре 1997 года стоимость вышеперечисленного набора по ценам Беларуси равнялась 815,7 тысячи белорусских рублей.

Прочитала, подсчитала и задумалась. Оказывается, на свою одну пенсию 1300000 руб. в месяц я могу купить 124 кг картошки, 350 г полукопченой колбасы, 450 г колбасы вареной, 1,6 кг сметаны и т.д. Еще останется на несколько бутылок водки в год. Но на самом деле у меня, почему-то, так не получается. Дайка, думаю, еще раз пройду по магазинам и узнаю все цены на продукты питания. Когда я вновь все подсчитала, то у меня получилось, что за вышеперечисленный набор продуктов мне нужно уплатить 9670500 руб. Вот и думаю, из какого такого источника и за какой год мадам Зубович взяла цены для определения стоимости данного набора продуктов? А что будет к концу 1998 г.! Ведь наш президент перед референдумом обещал, что цены стабилизируются.

**Валентина ОСОТОВА**

**Набор важнейших продуктов питания, который рассчитан, как годовая норма питания на 1 человека.**

| Наименование | кг | тыс. руб. | всего |
|---|---|---|---|
| Хлеб ржано-пшеничный | 68,7 | 7,6 | 522120 |
| Хлеб пшеничный | 62,9 | 6,4 | 402560 |
| Мука пшеничная | 19,5 | 18,2 | 354900 |
| Рис | 3,7 | 23,3 | 86210 |
| Пшено | 9,8 | 22,2 | 217560 |
| Вермишель | 5,2 | 28 | 145600 |
| Картофель | 124,2 | 6,5 | 807300 |
| Капуста | 28,1 | 7,1 | 199510 |
| Морковь | 37,5 | 6,3 | 236250 |
| Лук репчатый | 28,4 | 24,5 | 695800 |
| Яблоки | 19,4 | 24,5 | 475300 |
| Сахар | 20,7 | 22 | 455400 |
| Говядина | 8,4 | 67100 | 596400 |
| Птица | 17,5 | 69,3 | 1212750 |
| Колбаса вареная | 0,450 | 84 | 37800 |
| Колбаса полукопченая | 0,350 | 140 | 49000 |
| Рыба мороженая | 11,7 | 67 | 783900 |
| Молоко | 123,1 | 6,2 | 763220 |
| Сметана | 1,6 | 32 | 51200 |
| Масло животное | 2,5 | 82 | 205000 |
| Творог | 9,9 | 18 | 178200 |
| Сыр | 2,3 | 90 | 207000 |
| Яйца | 151,4 | 23 | 354200 |
| Маргарин | 3,9 | 70 | 273000 |
| Масло растительное | 6,4 | 56,3 | 360320 |
| **ИТОГО** | | | **9670500** |

НАВІНЫ

## Падаражэў праезд

З 1 лютага адна паездка ў гарадскім транспарце нашага горада будзе каштаваць ужо 2600 рублёў. А тым, хто хоча набыць месячны праязны, давядзецца выкладаць аж 100 тысяч рублёў.

**Міхась АКУЛКА**

## У медыкаў адабралі праязныя

**Цікавае рашэнне прыняў сход медработнікаў, які адбыўся 21 студзеня ў раённай бальніцы.**

Па ініцыятыве старшыні прафкама тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Т.Кажанковай, большасцю галасоў было вырашана не выдзеляць сродкаў на набыццё праязных білетаў медсёстрам, якія абслугоўваюць хворых дома.

Замест гэтага медыкам паабяцалі выдзяліць восенню больш сродкаў на закупку гароднiны і садавіны.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

## Прэмія лепшым

**Слонімская арганізацыя Партыі Камуністаў Беларускай (ПКБ) заснавала прэмію для школьнікаў горада, якая будзе ўручацца двойчы ў год (на 22 красавіка і 7 лістапада).**

Пераможцы будуць вызначацца па наступных намінацыях: выдатная вучоба, актыўны ўдзел у грамадскім, культурным і спартыўным жыцці школы.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ**

## Булёнчыку захацеў

**У слонімца Ю., які жыве ў Рышчыцах, скралі курэй.**

Прапажу іх заўважыла гаспадыня і адразу паведаміла ў міліцыю. Міліцыянеры натрапілі на злодзея "па гарачых слядах". Па падазрэнні ў гэтым злачынстве быў затрыманы нідзе не працуючы і раней судзімы слонімец С., які, магчыма, і пакваліўся на трох чужых курэй.

**Алег ТАЧОНЫ**

**Шаноўныя сябры! Працягваецца падпіска на "Газету Слонімскую". На нашу газету Вы можаце падпісацца з сакавіка месяца ва ўсіх паштовых аддзяленнях сувязі горада і раёна. Нагадваем, што кошт падпіскі на месяц складае 15 тысяч рублёў.**

## Чытайце ў нумары:



## Фронт наступае

**У мінулую нядзелю 25 студзеня ў РДК адбылася сустрэча кіраўніцтва Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" і Кангрэсу незалежных прафсаюзаў з жыхарамі нашага горада.**

Перад прысутнымі выступілі намеснікі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі і Юрась Беленькі, кіраўнік грамадскага Кабінета Міністраў БНФ Іван Саверчанка, адказны сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык і прэзідэнт незалежных прафсаюзаў Генадзь Быкаў і іншыя.

Прадстаўнікі БНФ расказалі аб дзейнасці арганізацыі ў цяперашні час, выказалі свае меркаванні аб сучасным палітычным і эканамічным стане ў краіне, адказалі на шматлікія пытанні слонімцаў.

Прэзідэнт Кангрэсу незалежных прафсаюзаў Генадзь Быкаў падрабязна спыніўся на пытаннях сучаснага ўзроўню жыцця насельніцтва Беларусі і таксама адказаў на разнастайныя пытанні прысутных.

Напрыканцы сустрэчы была прынята рэзалюцыя, за якую прагаласавала больш за 200 прысутных слонімцаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Раманс для мэра

**У раённым Доме культуры прайшоў дабрачынны багаслоўска-музычны вечар "Царква і рэлігія", у якім прыняў удзел Патрыяршы Экзарх усея Беларусі Філарэт.**



*Алег Лакцюшын глядзіць*

Слонімцы з задавальненнем слухалі багаслоўскія песні ў выкананні хору Мінскай духоўнай семінарыі, вершы паслушніка Алега (паэт Зьніч).

Затым адбыўся канцэрт заслужанай артысткі Расіі, карэннай сланімчанкі, Людмілы Іларыёнавай, якая выканала старадаўнія рамансы і песні ў суправаджэнні квартэту "Маскоўская балалайка". У свой час Людміла Іларыёнава вучылася ў Слонімскай музычнай школе.

Напрыканцы вечара артыстка праспявала раманс "Белой акации грозди душистые", які прысвяціла мэру горада Алегу Лакцюшыну, а затым разам з ім на сцэне станцавала вальс.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## У Альбярціне новай крамы пакуль не будзе

**Сёмы год жыхары мікрараёна "Альбярцін" дамагаюцца адкрыць новую краму.**

Пра сваю просьбу яны пісалі ў розныя ўстановы: у гарадскі і абласны выканкамы, у Вярхоўны Савет і самому прэзідэнту РБ. Справа ў тым, як пішуць людзі ў сваім лісце ў рэдакцыю, што прадуктовая крама па вуліцы Зорнай маленькая і цесная. Будаўніцтва новай гандлёвай кропкі спачатку планавалася пачаць яшчэ ў 1993 годзе. Нават была зроблена праектна-каштарысная дакументацыя і падрыхтавана будаўнічая пляцоўка. Аднак на той час не знайшлося грошай, і таму будаўніцтва было адкладзена.

Ішлі гады. Альбярцінцы зноў пісалі ў Гродна і Мінск. Але справа не рухалася. А нядаўна з аблвыканкама, за подпісам намесніка старшыні Віктара Чорнага, быў атрыманы адказ.

У лісце паведамляецца, што сёлета таксама ў абласным бюджэце няма грошай на пабудову новай крамы ў Альбярціне, бо яны "накіраваны на завяршэнне раней пачатых аб'ектаў". Таму просьба альбярцінцаў будзе разгледжана пры фарміраванні плана на 1999 год. Такім чынам, мусіць, і ў трэцім тысячагоддзі жыхарам мікрараёна па-ранейшаму прыйдзецца купляць прадукты ў маленькай цеснай краме.

**Сяргей ЁРШ**

# «Залаты Меркурый» з Парыжа - у Слоніме

**Дырэктара фабрыкі "Тэкстыльшчык" Тамару Жыткевіч запрасілі ў Парыж для ўручэння прыза "Залаты Меркурый", які заснаваны міжнароднай асацыяцыяй "Партнёрства дзеля прагрэсу".**

Высветлілася, што вырабы фабрыкі, якія летась былі прадстаўлены на міжнароднай выставе ў Маскве, эксперты высока ацанілі, адзначыўшы іх якасць і прыгажосць. Акрамя прыза прадпрыемства атрымала нумарны сертыфікат якасці міжнароднага ўзору.

За прызам Тамара Васільеўна ў Парыж не паехала, бо «для гэтага патрэбна было 2,5 тысячы даляраў». Каб зарабіць гэтыя грошы, уся фабрыка павінна працаваць адзін дзень бясплатна. А нядаўна прыйшла вестка, што гэты прыз тэкстыльшчыкі атрымаюць у Маскве.

У мінулым годзе на фабрыцы абноўлена 57 % усіх выпускаемых вырабаў і ні адзін з іх не залежваецца на складзе. Галоўным напрамкам работы калектыва лічыцца выраб прадукцыі для канкрэтных заказчыкаў, якія здольны зрабіць папярэднюю аплату. І гэты смелы крок апраўдаў сябе. На разліковым рахунку фабрыкі з'явіліся абаротныя сродкі, якія далі магчымасць не толькі разлічыцца з мінулагоднімі запазычанасцямі, але і наладзіць трывалыя сувязі з пастаўшчыкамі сыравіны. Прадпрыемства стала працаваць рытмічна і зладжана. У мінулым годзе выраблена і адпраўлена спажыўцам прадукцыі на суму 65,2 мільярда рублёў. Атрымана каля 5,8 мільярда рублёў прыбытку.

Работніцы творчай майстэрні, дзе брыгадзірам Валянціна Андрэйчук, мастачкі Святлана Кузьміцкая і Аксана Аўдзейчык працуюць над новымі ўзорамі коўдраў, махровых прасцін і вясельных ручнікоў.

А маладая мастачка Таццяна Пліндукова распрацавала ўзор пакрывала "Усходняя казка", якое многім спадабалася на выставе ў Маскве, і зараз на гэты від прадукцыі паступаюць шматлікія заказы.

Галоўны інжынер фабрыкі, Ірына Худзьо, назвала дзесяткі людзей розных прафесій, якія працуюць творча, з ініцыятывай і аддаюць вытворчасці ўсю душу. Гэта тэхнолаг Марыя Жукоўская, аператар Раіса Казінец, ткачыхі Алена Цітко і Раіса Макарская, памочнік майстра Уладзімір Цімошка і іншыя.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



# Идет первая сессия

Ⓚ

Впервые в нашем городе начало работу представительство Минского филиала Российского современного гуманитарного института. Прошло полгода с тех пор, когда первые студенты заочного отделения приступили к занятиям. И вот позади лекции, практические занятия, компьютерные тренинги. Началась первая сессия: идет сдача зачетов и экзаменов.



Корреспондент "ГС" встретился со студентами 1-го курса факультета экономики. Алла Данильчик, заместитель заведующего магазина №10 АО "Світанак":

—Я с отличием закончила Новогрудский торгово-экономический техникум. А когда узнала, что высшее образование можно получить дома, не выезжая из Слонима, за умеренную плату, очень обрадовалась. Материальная база учебного заведения весьма солидная. Учебные аудитории оснащены современной компьютерной техникой. Занятия ведут квалифицированные преподаватели. Сейчас убедилась, что получаю солидные знания, которые так необходимы в моей работе.

Наталья Шершень, бухгалтер лесхоза, так пояснила, почему она здесь учится:



—Обучение ускоренное: вместо традиционных пяти лет, образование получим за три. Очень довольна, что вместе с обычными лекциями, занятия проходят в форме деловых игр, конференций, круглых столов. Я особенно люблю занятия по информатике, которые проводит преподаватель Сергей Лупачев.

Более подробно о представительстве Минского филиала Российского современного гуманитарного института рассказывает методист Галина Декола:

—Институт создан на интеллектуальной и технической базе институтов переподготовки кадров ведущих отраслей народного хозяйства и имеет государственную лицензию на образовательную деятельность по направлениям: юриспруденция, экономика и менеджмент. В 1997 году современный гуманитарный институт прошел аттестацию в России и имеет свою аккредитацию. В настоящее время работает более 90 представительств этого учебного заведения в разных городах России и стран СНГ.

Для качественного обучения приобретены учебники и методические материалы лучших учебных центров США, Европы и России. Применяемые технологии дистанционного обучения позволяют студентам освоить учебные программы, которые соответствуют российским государственным стандартам и международным требованиям.

Галина Викторовна отмечает, что в ВУЗе:

—Преимущество обучения состоит в том, что использование современных учебных пособий (видеолекций, компьютерных программ, сценариев деловых игр, логических схем и тестов) создает "эффект присутствия" ведущих профессоров столичных и зарубежных университетов в аудиториях филиала. Следуя демократическим традициям, также, как и во всем мире, в институте отказались от конкурса абитуриентов, заменив его собеседованием и тестированием. Если студент проходит полный курс обучения в нашем институте, он получает диплом бакалавра государственного образца и диплом-сертификат международного образца. Получается, что не выезжая из Слонима, человек может получить знания, необходимые для карьеры бизнесмена, юриста, экономиста.

В настоящее время проходят обучение две группы студентов экономического факультета и одна группа — юридического.

Плата для поступающих на 5-летний срок составляет 525 долларов США в год, а на срок 2,5 и 3 года — 580 долларов США в год. Оплата производится в белорусских рублях по курсу Национального банка РБ.

Сейчас институт проводит весенний набор студентов на 1-ый курс по трем вышеназванным специальностям. Документы принимаются до 15 февраля 1998 года. Начало занятий — 22 февраля 1998 года.

**Более подробную информацию можно получить по адресу: Слоним, ул. Брестская, 100. СШ №8. Тел. 5-12-73.**

КУЛЬТУРА

# Тэатр «Этуаль»

Слонім — горад з багатай культурнай спадчынай. Нашчадкі "палескіх Афін" і сёння прадаўжаюць слаўныя традыцыі сваіх землякоў. Ужо больш за год на берагах Шчары дзейнічае тэатр "Этуаль". Нядаўна артысты падрыхтавалі новае шоў-прадстаўленне пад назвай "Капрызнае зачараванне".

Карэспандэнт "ГС" сустрэўся з кіраўніком і арганізатарам тэатра Ірынай Сцепаненка і папрасіў адказаць на некалькі пытанняў:

**—Ірына Андрэеўна, тэатр моды — гэта што, і чаму ён мае такую назву?**

—Гэта самадзейны творчы калектыў аднадумцаў і энтузіястаў, які ставіць сваёй мэтай не толькі прадэманстраваць мадэль адзення, але і ўдыхнуць у яе жыццё. Мы імкнемся спалучаць прызванне душы з творчым майстэрствам. Тэатр працуе на грамадскіх пачатках. "Этуаль" у перакладзе з французскай мовы азначае зорка. Мы імкнемся навучыць жанчыну прыгожа і элегантна апранацца з улікам яе матэрыяльнага становішча. Адзенне — гэта элемент гульні ў імідж, які падкрэслівае індывідуальнасць асобы. Наш тэатр — гэта напамін жанчыне аб тым, што пры любых абставінах яна павінна заставацца жанчынай. Гэта выклік масавай рыначнай модзе. Часта можна заўважыць, як нецарэчна выглядае чалавек, які купляе на рынку дарагую рэч, але яна не ўпрыгожвае яго. Таму мы імкнемся навучыць жанчыну правільна насіць адзенне, каб яно спалучалася з іншымі элементамі гардэроба.

**—А хто распрацоўвае вашы мадэлі?**

—Мадэльер-канструктар тэатра Марыя Конан. У творчым працэсе таксама ўдзельнічае ўвесь калектыў. Нашы мадэлі пашыты з тканін, купленых у слонімскіх магазінах. У гэтым нам дапамагаюць мясцовыя спонсары.

**—Акрамя шоў-прадстаўлення, чым яшчэ займаюцца артысты "Этуаля"?**

—Са сваімі прадстаўленнямі выязджаем у іншыя раёны, праводзім у школах урокі эстэтычнай культуры. Наша мара — стварыць школу мадэлей. Не раз да мяне звярталіся жанчынымаці, каб мы навучылі іх дзяцей правільна і прыгожа хадзіць, насіць адзенне і г.д. Гэта ўсё вельмі важна для сучаснага чалавека. Але для ажыццяўлення гэтай задачы нам патрэбен спонсар і, пажадана, пастаянны. На будучае — ёсць задума стварыць калекцыю сваіх мадэляў.

**—Ірына Андрэеўна, што модна ў гэтым сезоне?**

—Асноўная тэндэнцыя сучаснай моды — гэта рамантычна-элегантны стыль. У гэтым сезоне модным лічацца насіць чорны і фіялетавы колеры, адценне ад бледна-бэзавага да глыбока фіялетавага, белую адстрочку на чорным фоне і вышыўку, лакавыя тканіны, бліскучыя тканіны ў стылі "хай тэк". Даўжыня вячэрняй сукенкі — мідзі, паўсядзённага — трохі ніжэй калена.

**—Што пажадаеце чытачкам нашай газеты?**

—Быць у любой сітуацыі элегантнымі і абаяльнымі. Помніць пра свой жаночы пачатак. Запрашаем маладых дзяўчат і жанчын да супрацоўніцтва.

Гутарыла
**Ірына АНТОНАВА**



*Кіраўнік тэатра «Этуаль» з маленькімі ўдзельнікамі прадстаўлення*

ІНФАРМБЮРО

*Паважаная рэдакцыя!*

*У спартыўных навінах газета часта піша пра перамогі дзіцячага футбольнага клуба "Талант". Што гэта за клуб? У мяне ёсць сын 1989 г.н. Ці можна яму там займацца, і на якіх умовах?*

**Ігар ГУРНОЎСКІ, Слонім.**

Карэспандэнт "ГС" сустрэўся з кіраўніком дзіцяча-юнацкага футбольнага клуба "Талант" Русланам Корневым. Яму 22 гады. З дзяцінства ўлюблёны ў футбол, ён даўно марыў пра стварэнне сваёй каманды. Руслан завочна вучыцца на другім курсе футбольнага аддзялення Харкаўскага інстытута фізкультуры. Вось што ён расказаў:

—У 1996 годзе, з дазволу гарадскога аддзела адукацыі, на базе трэцяй сярэдняй школы была адкрыта секцыя футбола. У студзені мінулага года гэта секцыя перарасла ў дзіцяча-юнацкі футбольны клуб. Існуе ён на адлічэнні вытворчага аб'яднання ЖКГ.

На сёняшні дзень у клубе займаецца каля 80 хлопчыкаў. Яны падзелены на чатыры групы: у першую ўваходзяць дзеці 1988-89 гадоў нараджэння, у другую — 1986-88 г.н., у трэцюю — 1985-86 г.н., у чацвёртую — 1983-84 г.н. Хлопчыкі займаюцца не толькі футболам, але і ходзяць у паходы, праводзяць дыскатэкі, разам адзначаюць дні нараджэння. "Калі хтосьці з іх не стане футбалістам, дык вырасце моцным хлопцам", — кажа Р.Корнеў.

У "Талант" прымаюцца ўсе хлопчыкі, якія жадаюць займацца футболам. Навабранцы павінны мець толькі спартыўную форму ды жаданне кожны дзень займацца на трэніроўках. Кантактныя тэлефоны: 2-48-37, 2-75-75.

А яшчэ "Талант" будзе ўдзячны ўсім зацікаўленым людзям, якія пажадаюць дапамагчы ў станаўленні футбольнага клуба.

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109–1–12.
E-mail: rues@slonim.belpak.grodno.by
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.
Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Падпісана да друку 29 студзеня 1998 г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.
Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.800 экз.
Заказ № 274

# РОДНАЕ СЛОВА

ДА 200-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АДАМА МІЦКЕВІЧА

## «Літва, Айчына дарагая...»

Гэтыя радкі Адама Міцкевіча адносяцца да нашай зямлі. Слонімшчына, Навагрудчына, Ваўкавышчына — тэрыторыя старажытнай Літвы, маляўнічая прырода якой, звычаі і норавы, заганы і дабрачыннасці знайшлі адлюстраванне ў творах геніяльнага земляка. Еўрапейская знакамітасць, нямецкі прафесар Шлейхер, пасля прачытання «Пана Тадэуша», з захапленнем пісаў: «Можна пазайздросціць палякам, у якіх з'явілася свая Іліяда!».



Знакаміты гісторык і літаратуравед мінулага стагоддзя — Адам Кіркор сказаў, што «па выхаванню, па першых творах сваіх Міцкевіч належыць Літве, якая ва ўспамінах усяго яго жыцця, ва ўсіх яго творах зліваецца з Беларуссю».

Напэўна, не мае сэнсу ставіць пытанне: чый ўсё ж такі паэт А. Міцкевіч? Польскі, беларускі , ці літоўскі?.. Геніі належаць усяму чалавецтву.

Адам Бернард Міцкевіч (імя па хрышчэнню — Напалеон) нарадзіўся 200 гадоў назад на хутары Залессе (зараз Баранавіцкі раён) у сям'і навагрудскага адваката Мікалая Міцкевіча і Барбары Маеўскай. Міцкевічы належалі да збяднелага старажытнага шляхецкага рода, які меў свой герб — Порай-Рымвід. Тут, на хутары свайго дзядзькі, маленькі Адам упершыню пачуў народныя песні, якія спявалі дзяўчыны-сялянкі.

Тут слуга Блажэй і старая няня будзілі яго багатае дзіцячае ўяўленне пераказамі народных павер'яў і легенд. Свет, дзе рос будучы вялікі паэт, быў пераважна светам беларускіх сялян і дробнай шляхты. З ранніх гадоў Міцкевіч адчуваў любоў да гэтых простых людзей, якія неаднойчы звярталіся да яго бацькі за дапамогай. Ужо ў Парыжы, на выгнанні, ён пісаў пра сваё дзіцячае асяроддзе: «Няма людзей, болей шчырых і высакародных, чым яны; і няма мовы болей чыстай і мілагучнай, чым іх мова!».

Адам Міцкевіч належыць да найвялікшых паэтаў. Яго шануюць як неперасягненага рамантыка і прарока нацыянальна-вызвольнага руху. Ён стаіць у адным шэрагу з геніяльнымі стваральнікамі сусветнай літаратуры.

На месцы былога хутара Залессе цяпер вядуцца рэстаўрацыйныя работы. Дзевяць майстроў з двума падсобнымі рабочымі будуюць дом, гумно... Дах з чароту і глінабітная падлога, печ-каменка і зруб — усё падуладна здольным будаўнікам. Да слаўнага юбілею — 24 снежня 1998 года — хутар набудзе такі выгляд, якім яго адлюстраваў мастак Напалеон Орда.

**Ігар ПАДГАРАДЗЕЦКІ**



Хутар Залессе

## "Наша слова" шукае сяброў

Таварыства беларускай мовы, пасля доўгага перапынку, аднавіла выданне газеты "Наша слова".

Газета цяпер друкуецца ў Лідзе і рэдагуе яе мясцовы актывіст ТБМ Станіслаў Суднік. "Наша слова", як і раней, шмат увагі ўдзяляе сённяшняму становішчу беларускай мовы ў школе і ў грамадстве, піша пра беларускую літаратуру, гісторыю. У Слоніме ўжо ёсць 10 падпісчыкаў выдання Таварыства беларускай мовы.

**Сяргей ЁРШ**

## НАШ КАЛЯНДАР

**30 СТУДЗЕНЯ 1930** года ў Слонімскім павеце польская паліцыя арыштавала сакратара арганізацыі "Змаганне" Сымона Жыткевіча. Пасля года ўтрымання ў Лукішскай турме ў Вільні, Віленскі акруговы суд прыгаварыў яго да 4 гадоў катаргі.

**27–30 СТУДЗЕНЯ 1597** года па хадайніцтву слонімскага старосты Льва Сапегі ў Слоніме прайшоў першы генеральны сеймік Вялікага княства Літоўскага. На яго з'ехаліся пасланцы з Віленскага, Навагрудскага, Менскага, Троцкага, Полацкага, Смаленскага, Віцебскага, Брэсцкага, Мсціслаўскага, Інфлянцкага і Чарнігаўскага ваяводстваў. Падобныя сеймікі ў Слоніме праводзіліся да 1685 года.

3 **ЛЮТАГА 1934** года ў Слоніме адбылося пахаванне закатаванага польскай паліцыяй члена КПЗБ Петрушэні. У сувязі з гэтым, як пісаў навагрудскі ваявода, "школьная моладзь вёскі М. Кракотка не пайшла ў школу і прыняла ўдзел у пахаванні, у якім бралі ўдзел каля 300 чалавек з навакольных вёсак".

У гэты ж дзень, у **1936** годзе, у турме Беластока ад пабояў і катаванняў памёр актыўны дзеяч падпольнага камсамольскага руху Заходняй Беларусі Юры Кавалеўскі (паходзіў з вёскі Шылавічы).

З **4 ЛЮТАГА 1919** года на працягу трох тыдняў у Слоніме працаваў Гродзенскі губернскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт на чале з С. Берсанам.

**Сяргей ЁРШ**

### Адказы на красворд «Слонімскі» (№4):

**Па гарызанталі:** 5.Валовіч. 6. Манівід. 8. Івацэвічы. 11. Князь. 14. Лейка. 15. Віцебск. 16. Сапега. 17. Турыст. 20. Крынчык. 22. Фасад. 23. Бівак. 26. Міцкевіча. 27. Канопка. 28. Бронскі.

**Па вертыкалі:** 1. Дарожны. 2. Літва. 3. Парча. 4. Сіняўка. 7. Рэгнер. 9. Дзераўная. 10. Іерусалім. 12. Мізгіры. 13. Астурыя. 18. Англез. 19. Мальцаў. 21. Паводка. 24. Міско. 25. Шчара.



**Гальяш ЛЕЎЧЫК**

## Мая прадмова

Нічога не хачу...
Нічога, нічога —
Ні грошай, ні славы,
ні шчасця сляпога...
А толькі ўсё жду я,
каб родная мова
Хутчэй дачакала
свабоднага слова!
Пакуль не дажджуся
багацця такога, —
Нічога не хачу...
Нічога, нічога!

**1927 г.**

* * *

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых, —
Каб ён свету не знаў!
Мову родную хто
Пазабыў, асмяяў,
Загубіў за нішто, —
Каб ён свету не знаў!
Сваю родну зямлю
Хто чужынцу прадаў,
Скрыўдзіў вёску сваю, —
Каб ён свету не знаў!
Хто з народам не жыў
І карысці не даў,
Хто сваіх не любіў, —
Каб ён свету не знаў!

**1927 г.**

# Змаганне за беларускую школу на Слонімшчыне

**Сяргей Хмара (1905-1992) — вядомы беларускі паэт, палітык, журналіст. Ягоны лёс цесна звязаны са Слонімшчынай. У сярэдзіне 1920-х гадоў ён далучыўся да барацьбы беларускай інтэлігенцыі і сялянства за навучанне ў школах на роднай мове. На чале гэтага руху ў тагачаснай Заходняй Беларусі стаяла Таварыства Беларускай Школы (ТБШ). Прайшло 70 гадоў. І вось зноў беларускае слова выцясняецца са школы, і зноў распачынае сваю дзейнасць ТБШ. Гісторыя паўтараецца?..**

**Прапануем увазе чытачоў успаміны Сяргея Хмары, якія пісаліся ў 1963 годзе, на чужыне, у Канадзе.**

Восенню 1924 года, калі партызанская барацьба з польскімі ўладамі пачала пакрысе заміраць, мясцовы беларускі актыў распачаў пераводзіць змаганне за нацыянальныя правы на больш-менш легальны грунт. Найбольш пякучым пытаннем для сялянства было стварэнне сваёй роднай школы, каб такім чынам абараніць дзетак ад паланізацыі, якая адбывалася ў прымусовых польскіх школах.

Як вынік, прадстаўнікі мясцовага актыву ўсталявалі сувязь з Таварыствам Беларускае Школы ў Вільні. Аднак паводле тагачаснага статуту гэтай арганізацыі, дазволенага польскімі ўладамі, Віленскае ТБШ магло праводзіць сваю дзейнасць толькі ў межах Віленскага ваяводства, а Слонімшчына тады належала да Навагрудскага ваяводства. Пры дапамозе пасла Сейму Рак-Міхайлоўскага, была наладжана сувязь са старшынёй Радашкоўскага ТБШ — сенатарам Уласавым. Слонімскае Таварыства мела права на дзейнасць у Навагрудскім ваяводстве. Такім чынам было створана неафіцыйнае прадстаўніцтва Радашкоўскага ТБШ у Казлоўшчыне, якое я ўзначаліў.

Самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы школьнай акцыі прыняў беларускі паэт-нашанівец Гальяш Леўчык, сам слонімец, а ў той час сакратар сенатара Уласава. Звычайна Леўчык прыязджаў з Варшавы ў Слонім, дзе сустракаўся з мясцовымі актывістамі і перадаваў ім інструкцыі ад старшыні ТБШ Уласава, як праводзіць школьную акцыю. Асновай яе павінен быў стаць польскі закон аб прыватным школьніцтве.

На месцах быў падрыхтаваны настаўніцкі актыў, а пасля ў кожнай намечанай вёсцы былі праведзены сельскія сходы, на якіх складаліся пратаколы, што вёска мае намер адкрыць сваю прыватную беларускую школу. Акрамя таго, называўся пэўны настаўнік, якому сяляне маюць намер плаціць адпаведную колькасць збожжа ад дзіцяці, адзначалася таксама, што размяшчацца школа павінна ў пэўным арэндаваным будынку і г.д. За подпісамі ўсіх прысутных гэты дакумент праз мяне перадаваўся Г.Леўчыку для ТБШ. Разам перадаваліся і дакументы кандыдата на настаўніка. ТБШ накіроўвала гэтыя дакументы ў ваяводства.

Такім чынам былі складзены заявы аб арганізацыі школ у 15 вёсках (11 у Казлоўшчынскай ваколіцы і чатыры за ракой Шчара: Чамяры, Савічы, Малы Угрынь і Рудаўка, якія паўсталі незалежна, дзе арганізатарамі сталі настаўнікі Максім Бурсевіч, Дожын і Ломжык).

Былі складзены заявы на стварэнне школаў у вёсцы Задвор'е — настаўнік А.Тарасюк, у вёсцы Лядзіны — настаўніца Марыя Белавус, у вёсцы Пруды — настаўніца Надзея Капітончык, у в. Накрыжкі — настаўніца Вера Катрач, у вёсцы Азарычы — Марыя Шундрык, у в. Шундры — настаўнік І.Скок, у в. Хамічы — наст. Я.Кухта, у в. Сянькоўшчына — настаўніца Касцюшка, у в. Драбавічы — наст. І. Гародка, у в. Пятралевічы — настаўніца Марыя Пятліцкая і ў в. Погіры — наст. Бяленка.



*Хата Івана СІДАРА ў вёсцы Вострава (цяпер Зэльвенскі раён), у якой у 1926-28 гг. была бібліятэка гуртка ТБШ.*

Паводле тагачасных польскіх законаў, калі за тры тыдні на заяву не прыходзіць забарона, то гэта лічыцца за дазвол. Такім чынам, пачакаўшы тры тыдні пасля выслання ў ваяводства заяваў на стварэнне школы, сяляне пачалі арганізоўваць іх (акрамя Шундроў, Погіраў і Хамічоў). У выніку польскія школы апусцелі, а ў Лядзінах дайшло да сутычкі з польскімі настаўнікамі, да якіх у школу прыйшлі сяляне і сілай забралі зробленыя імі калісьці школьныя лаўкі для дзяцей, і перанеслі іх у сваю школу.

Масавасць акцыі перапалохала ўлады, і яны спачатку не асмеліліся зачыніць беларускія школы, абвясціўшы толькі сялянам, што за кожны дзень прапушчаных дзецьмі заняткаў у польскай урадавай школе, бацькі будуць пакараныя грашовым штрафам (5 злотых). Але і гэта не дапамагло.

Толькі праз месяц, атрымаўшы, відаць, загад з Варшавы, паліцыя прыступіла да арыштаў. Падчас майго арышту паліцыянты захапілі ўсю афіцыйную перапіску з ТБШ у школьнай справе. Мяне абвінавацілі ў арганізацыі 11 нелегальных школаў. Настаўніцу М. Белавус абвінавацілі ў агітацыі сялян супраць польскіх настаўнікаў і ў рабаванні "дзяржаўнай маёмасці" (факт, калі забралі лавы). Настаўнікаў Марыю Шундрык, Касцюшку і Капітончык абвінавацілі у падбухторванні сялянства. А сельскага старасту з Задвор'я Л.Сіняка абвінавацілі ў арганізацыі "нелегальнага" сходу, які пастанавіў адкрыць школы. Настаўніца Марыя Пятліцкая перад арыштам паспела схавацца, а пасля ўцякла ў БССР. Беларускія школы былі апячатаны.

І. Скоку ўлады прапанавалі пасаду настаўніка беларускай мовы ў дзяржаўнай настаўніцкай семінарыі, якая адкрывалася ў Слоніме, а Гародку прапанавалі выкладаць у польскай школе. Адну беларускую школу — у Накрыжках — дазволілі. У выніку арышту, М.Белавус была засуджана на паўгода турмы. Марыя Шундрык катавалася на следстве, захварэла ў турме на сухоты і памерла незадоўга да выхаду на волю. Я выйшаў з турмы з перабітай вушной перапонкай... Пазней былі вызвалены і астатнія настаўнікі.

Пасля таго, як былі зачынены беларускія школы, вучні не вярнуліся ў польскія, бо ім быў абвешчаны байкот. Накладзеных штрафаў сяляне не плацілі, а калі ў вёсках Лядзіны і Пруды з'явіліся каморнікі спаганяць штрафы, дык сяляне выгналі іх каламі. У адказ на гэта ўлады сіламі паліцыі і войска арганізавалі напад на вёскі Лядзіны, Сянькоўшчына і іншыя, забіраючы ў сялян кароў, кажухі і палатно. Прычым, у Лядзінах адбыўся сапраўдны бой з паліцыяй. Пра гэтыя падзеі быў паведамлены Беларускі Пасольскі Клуб, які склаў у гэтай справе інтэрпэляцыю. Бура, паднятая ў Сейме і розгалас, змусіў польскія ўлады скасаваць штрафы.

Трэба ўспомніць і аб Марыі Пятліцкай, якая не выратавалася ад праследу за беларускую справу і ў Мінску. У 1937 годзе яна была вывезена ў сталінскія канцлагеры.

**Сяргей ХМАРА**

# МЫ

НАШЕ ИНТЕРВЬЮ

## Вопросы к голому человеку

*Позвонив в дверь квартиры одной из слонимских семей, я, честно признаюсь, заметно волновалась. Мне предстояло встретиться со "сторонниками естественного образа жизни", т.е. нудистами, или как они сами себя называют, натуристами.*

Мое знакомство с членами этой семьи состоялось спустя несколько минут за чашкой кофе. 44-летний глава семьи Владимир и его 42-летняя жена Елена работают на одном из крупнейших предприятий города. Оба имеют высшее образование. Старший сын — студент одного из минских ВУЗов, младший — школьник. Девять лет назад их семья переехала в Слоним из Гродно, чтобы быть поближе к родителям Елены. С тех пор и остались в нашем городе.

Владимир и его жена без раздумий согласились ответить на мои вопросы. Результат нашей беседы я и предлагаю на ваш суд.

**—Есть ли в Слониме еще сторонники натуризма?**

—Мы бы не сказали, что в Беларуси у натуристов много сторонников. Обычно у людей наш образ жизни ассоциируется с чем-то нездоровым или опасным. Но это всего лишь из-за невежества и ханжества. Хотя наш народ можно понять: так долго он был лишен всякой информации о нашем образе жизни. А в Слониме, насколько нам известно, наших сторонников всего 10-12 человек. Все они либо наши родственники, либо ближайшие друзья.

**—Где вы встречаетесь среди "своих" и как проводите время?**

—Где угодно: в походах и на пустынных пляжах, дома... Самое популярное место — русская баня. Раз в неделю мы собираемся на даче у одного нашего друга, где превосходная самодельная банька и бассейн. Летом отдыхаем в натуристских кемпингах на Черном море. Путешествуем за границу... Общаемся с солнцем, воздухом, водой и доброжелательными людьми.

**—Пробовали ли вы раздеваться в общественных местах?**

—Как-то очень давно в Гродно попробовали. До сих пор не можем забыть, как жестоко обошлась с нами милиция. После этого новые попытки делать не хочется.

**—Вы живете в многоквартирном доме. Как при этом у вас складываются отношения с соседями?**

—Через полгода после того, как мы вселились в эту квартиру, о нашем образе жизни узнали соседи. После этого стали к нам валом валить: то спички отдолжить, то статью интересную в газете прочитать принесут. Самое интересное то, что приходили в основном мужчины, старались заглянуть, когда Елена дома оставалась одна. Такое продолжалось месяца два, а потом видимо насмотрелись и успокоились. Сейчас кто-то из них даже разделяет наше мнение, а кто-то наоборот — не здоровается.



**—Но в чем смысл этого "нудизма-натуризма"?**

—Прежде всего, в нахождении гармонии с природой — как внешней, так и своей внутренней. Натуризм — это не только "отдых без плавок", но и система рационального и естественного питания, профилактика и лечение заболеваний. Это прежде всего то, что мы называем "здоровым образом жизни". Нагота при этом — первая ступень к самосовершенствованию.

**—Разве нельзя "самосовершенствоваться" в плавках?**

—Можно. Но у вас так и останется страх перед обнажением. Ведь обнаженное состояние первично и столь естественно для человека, что к нему вполне применим принцип: "Одет — когда необходимо, обнажен — когда возможно". Часто нудистами называют тех, кто предпочитает лишь время от времени загорать на пляже без одежды, не желая углубляться в идеи натуризма, вступать в клубы и т.д.

**—Простите, но зачем любителям загорать без одежды, объединяться во всякие клубы, организации? Зачем нужна еще одна партия — "партия голых"?**

—Во всем цивилизованном мире люди стремятся к объединению, и это помогает им решать многие проблемы, которые они не смогли бы решить поодиночке. Ведь одному человеку трудно устроить нудистский пляж, да и просто позагорать без одежды (приходится прятаться, т.к. не все еще в нашем обществе отличаются терпимостью).

**—Не кажется ли вам, что увлечения натуризмом может вредно отразиться на вашем здоровье?**

—Общение с солнцем, воздухом и водой, пребывание на природе, естественное питание, нестесненное ничем дыхание всем телом, кожей. Это может принести вред?

**—Я о сексуальной стороне. Не приведет ли привычка быть обнаженным среди обнаженных людей к снижению интереса к противоположному полу?**

—Многочисленные исследования, проведенные в Европе, не нашли никаких заметных различий в сексуальной жизни натуристов и ненатуристов. При выборе такого образа жизни главным являются не сексуальные желания. Секс занимает в жизни натуристов то же место, что и любого другого человека.

**—Все ваши слова похожи на пропаганду. Вы считаете, что натуризм — панацея от всех бед и болезней?**

—Мы не столь наивны. Обнажение — это не гармония совершенства, но естественный шаг на пути к нему. Стать чуть лучше и здоровее, найти контакт с людьми, получить большое удовольствие от жизни. Разве этого мало?

**Светлана КУПИЧ**

## Общага

Почти все иногородние студенты Жировичского совхоза-техникума после поступления неизбежно оказываются в общежитии. Для одних "общага" — стиль жизни, а для других — лишь временное пристанище. Но для каждого из них время, проведенное в совместном жилище, останется ярким воспоминанием. Может, не всегда приятным, но дорогим.

Тому, кто ни разу не был в общежитии техникума, очень трудно объяснить, что это такое. Вообразите себе здание, набитое молодыми людьми, энергия у которых плещет через край. Там всегда шумно, иногда весело, а порой просто невыносимо. Все куда-то спешат, двери выполняют функцию вентиляторов, так как беспрестанно открываются и закрываются, на кухне вавилонское столпотворение, потому что всем неожиданно приспичило пообедать в одно время, сигарет нет, деньги кончились, а кушать хочется. Одни только тараканы жиреют.

Любителям тишины здесь приходится несладко. Тишина и общежитие — вообще несовместимые понятия. Ночные посиделки с гитарой и горячительными — вполне обычное явление. Пьют в общаге все, всегда и всё. В любой комнате можно обнаружить склад пустой стеклотары. Бороться с проблемой пьянства в общежитии, наверное, бесполезно. Не помогают ни ночные облавы, ни запрещение выходить после 23 часов. Во-первых, приобрести спиртное на месте отнюдь не проблема, во-вторых, при очень большом желании можно спуститься через окно по веревке...

Есть в "общей" жизни и приятные стороны. Ты голоден? Накормят! Не понял тему? Помогут! Завалил экзамен? Утешат! Негде переночевать? Оставайся!

Нравятся мне студенческие обычаи. Ну, например, "ловить халяву" перед экзаменом. Никогда не пробовали? Самое главное — это ничего не учить. А в ночь перед судным днем нужно открыть окно и, высунув из него раскрытую зачетку, три раза громко прокричать: "Халява ловись!". После этого нужно немедленно спрятать зачетную книжку и раскрыть только на экзамене.

Вообще, в период сессии студенты становятся очень суеверными. Попробуйте заставить кого-нибудь из них вымыть голову или, не дай Бог, показать зачетку во время сессии!

Вот так и живет общага. Со своими радостями и горестями, плюсами и минусами. Помните, если вы выжили в общежитии и вернулись под родной кров — все последующие сюрпризы судьбы покажутся вам милой шуткой.

**Светлана КУПИЧ**

## Молодежь и депрессия

***С целью изучения социальных процессов, происходящих в молодежной среде, ученые Института социологии Национальной академии наук Беларуси в конце минувшего года опросили около 600 юношей и девушек Минска и Минской области.***

Молодых людей в возрасте от 14 до 27 лет попросили назвать их любимые занятия в свободное время.

Большинство респондентов (61%) сообщили, что в свободное время предпочитают слушать музыку. Около половины опрошенных смотрят телевизор (48%) или выезжают на природу (46%); 44% респондентов на досуге предпочитают встречаться с девушкой (парнем); 41% — увлекаются чтением. Занимается спортом 24% опрошенных и столько же – посещает концерты и театры. Заниматься домашними делами, помогать родителям по хозяйству в свободное время любят лишь 13% молодых людей.

По словам автора исследования, кандидата философских наук Людмилы Агеевой, результаты опроса показали, что каждый второй молодой человек, если ему грустно и одиноко, зовет лучшего друга, подругу или же слушает музыку (49%). 12% убегают от одиночества на природу, за город. По 6% опрошенных пытаются уйти от грусти с помощью чтения, либо обращаются к родителям и родственникам.

**БелаПАН.**

## 13-гадовая Маша нарадзіла Сашу і Пашу

Да сенсацый мы ўжо прызвычаіліся. Аднак гэты выпадак здзівіў многіх — 13-гадовая Маша Бяліцкая з Салігорска нарадзіла адразу двух дзетак.

З'явіліся яны на свет у першы дзень гэтага года. Кожны хлопчык важыў па 2 кілаграма. Па словах Машы, роды былі зусім не цяжкія. Аднак урачы гавораць пра іншае: роды былі складаныя (доўжыліся аж 4,5 гадзіны). У выніку Маша атрымала шмат траўмаў. Па меркаванню медыкаў, не кожная жанчына пасля перажытага захоча зноў радзіць.

У Мінскім раддоме Маша знаходзіцца ўжо паўтары месяцы. Прымаць роды ў Салігорску, дзе яна жыве, урачы пабаяліся і прапанавалі дзяўчыне-падлетку пазбавіцца ад цяжарнасці. Аднак Маша паслухала сваю маці, якая сама ўпершыню нарадзіла ў 18 гадоў і захацела стаць бабуляй у 32 гады.



Бацьку дзетак завуць Іван. Яны з Машай распісаліся ў ЗАГСе (маці Івана, як прыняла ў беларускіх вёсках, сказала: "Зрабіў, дык гадуй!"), пасля выйшлі на вуліцу — і раз'ехаліся ў розныя бакі. "Бацька" так і не з'явіўся ў раддоме. Чакаць матэрыяльнай дапамогі ад яго, 18-гадовага "таты", не даводзіцца, бо ён яшчэ не працуе...

**"КП"**

УВАГА: КОНКУРС!

## Бацькі і дзеці!

Вы ведаеце, што вы жывяце ў еўрапейскай краіне — Беларусі? Вы не забыліся, што неўзабаве надыдзе XXI стагоддзе?

Калі ведаеце і не забыліся пра гэта, бярыце ўдзел у літаратурна-мастацкім конкурсе "Наш дом Беларусь у XXI стагоддзі".

Конкурс праводзіцца ў чатырох намінацыях:

**1.** Беларусы – еўрапейскі народ (прызы імя Францішка Скарыны),

**2.** Беларусь – наша Бацькаўшчына, наша маці (прызы імя Янкі Купалы),

**3.** Беларусь – наш дом, наш храм (прызы імя Уладзіміра Караткевіча),

**4.** Абаронім наш дом Беларусь! (прызы імя Алеся Адамовіча).

Дзеці да 7 год робяць надпісы тэмаў конкурса алоўкамі, малююць малюнкі або складаюць вершы. Дзеці і падлеткі 7-13 гадоў робяць малюнкі (аплікацыі), пішуць верш або празаічны твор. Падлеткі, дзяўчаты і юнакі 14-17 гадоў ствараюць мастацкі або літаратурны твор.

Літаратурныя творы дасылаюцца на адрас журы ў двух экзэмплярах. Малюнкі, выкананыя каляровымі алоўкамі, акварэллю, гуашшу, тушшу або тэмперай, а таксама аплікацыі дасылаюцца ў канверце або паштовай бандэроллю. Пры кожнай працы павінна ўказвацца тэма (намінацыя).

Тэрмін дасылання прац на конкурс: да 18 сакавіка 1998 года (па паштовым штэмпелі).

Падвядзенне вынікаў – да 25 сакавіка 1998 года. Пераможцы ў кожнай намінацыі атрымаюць каштоўныя прызы. Найлепшыя творы будуць апублікаваныя.

***Працы дасылаць на адрас: 220050, Мінск, вул. Кірава, 21, БГАКЦ (п.22) – з паметкай "На конкурс". Тэлефон для даведак: (0172)-27-32-77.***

